*Газету прыраўнялі да зброі (стар. 2)*
*Хто заплаціць пацярпелым укладчыкам? (стар. 3)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік і выдавец Павел Жук
Наклад 46 570
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

29 кастрычніка 1996 г. | № 82 | Кошт свабодны

## Лукашэнка праславіўся

**Сёння, 29 кастрычніка, у Нью-Йорку міжнародная арганізацыя *Human Rights Watch* праводзіць «круглы стол» па праблеме правоў чалавека ў Беларусі і праекту новай канстытуцыі.**

З асноўным дакладам на «круглым стале» выступіць Сяргей Навумчык, як прадстаўнік Беларускага Хельсінкскага камітэта. Будуць выступаць таксама прафесар Дона Арц і дырэктар аддзела Украіны, Беларусі і Малдовы Дзярждэпартамента ЗША Джэк Сігл. Будуць прысутнічаць прадстаўнікі ААН, палітычныя аглядальнікі і аглядальнікі па пытаннях права вядучых амерыканскіх газетаў. Такога — у дачыненні да Беларусі — у ЗША яшчэ не было.

На наступны дзень (30 кастрычніка) у Вашынгтоне адбудзецца брыфінг па сітуацыі ў Беларусі, які ладзіць Камісія па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе. Камісія складаецца з васьмі сенатараў, васьмі кангрэсменаў і двух прадстаўнікоў Дзярждэпартамента ЗША.

**Б.П.**

## Ціхіня – Капітану: «Прыміце меры»

**Старшыня Канстытуцыйнага суда В.Ціхіня накіраваў заяву Генеральнаму пракурору В.Капітану.**

В.Ціхіня заявіў, што на Канстытуцыйны суд робіцца ціск з боку высокапастаўленых службовых асобаў. У якасці прыкладу ён прывёў апублікаваную нядаўна ў афіцыйных газетах заяву Галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі адміністрацыі прэзідэнта, у якой сцвярджаецца, што *«стремление к диктаторской, бесконтрольной власти Верховного Совета поощряется Конституционным судом, напрямую зависимым от руководства Верховного Совета».*

В.Ціхіня звяртае ўвагу Генеральнага пракурора на тое, што падобныя заявы дапускаліся некаторымі службовымі асобамі і раней. Старшыня КС бачыць у гэтым парушэнне 126-га артыкула Канстытуцыі, у якім запісана, што прамое або ўскоснае ўздзеянне на Канстытуцыйны суд ці ягоных членаў, звязанае з дзейнасцю па ажыццяўленні канстытуцыйнага кантролю, недапушчальнае і цягне адказнасць па законе. В.Ціхіня просіць Генеральнага пракурора *«прыняць меры да службовых асоб, якія аказваюць ціск на Канстытуцыйны суд, а таксама для прадухілення незаконных дзеянняў у дачыненні да вышэйшага органа канстытуцыйнага кантролю Рэспублікі Беларусь».*

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## 2 лістапада – шэсце ў Курапаты

**Мінскі гарвыканкам папярэдне разгледзеў заяўку Беларускага народнага фронту на святкаванне 2 лістапада ў Мінску Дзядоў — дня памяці продкаў.**

Ужо стала традыцыяй, што з году ў год на Дзяды ўдзельнікі жалобнага шэсця збіраюцца а 12-й гадзіне каля помніка ахвярам фашызму, што побач з касцёлам св.Сымона і Алены на плошчы Незалежнасці. На гэты раз таксама планавалася, што з гэтага месца калона рушыць у бок плошчы Якуба Коласа, да парка Чалюскінцаў, Маскоўскіх могілак, а закончыцца святкаванне Дзядоў у Курапатах.

Як звычайна, гарадская выканаўчая ўлада прапанавала свой сцэнарый: удзельнікі Дзядоў могуць сабрацца ў 12:00 на плошчы Незалежнасці, а пасля — групамі не больш за 40 чалавек і ідучы толькі па тратуарах — правесці «кропкавае ўскладанне кветак» да памятных мясцін каля будынка КДБ, у скверы Янкі Купалы, на плошчах Перамогі і Якуба Коласа, у парку Чалюскінцаў і г.д. З 14:00 да 16:00 гарвыканкам прапануе правесці шэсце ад Маскоўскіх могілак да Курапатаў, дзе адбудзецца жалобная паніхіда.

Аднак арганізатары настойваюць на першапачатковым варыянце. Сыходзячы з досведу мінулых гадоў, мяркуецца, што ў акцыі возьмуць удзел некалькі тысяч чалавек, і разбіць іх на групы па 40 асобаў будзе папросту немагчыма. На момант падпісання нумара ў друк СВАБОДА яшчэ не мела звестак аб канчатковым рашэнні Мінгарвыканкама.

**Раман ЮРЭВІЧ**

**ПАДПІСКА-97**

## СВАБОДА будзе штодзённай газетай

Пачалася падпісная кампанія на наступны год. СВАБОДУ можна выпісаць на першыя 3 месяцы ў любым паштовым аддзяленні і «Белсаюздруку».

Спачатку рэдакцыя планавала выпускаць газету тры разы на тыдзень, але цяпер мы прыкладаем намаганні, каб са студзеня 1997 г. выпускаць СВАБОДУ штодня. Пры гэтым, заўважце, кошт падпіскі мы вырашылі не павялічваць.

**Падпіска на СВАБОДУ каштуе:**
**1 месяц — 18 тыс. рублёў**
**3 месяцы — 54 тыс. рублёў**

**НАШ ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63887**

## Чубайс думае за Беларусь?

**Дэлегацыя Вярхоўнага Савета Беларусі на чале з Сямёнам Шарэцкім 24 кастрычніка ў Маскве ўзяла ўдзел у чарговым паседжанні сесіі парламенцкага сходу Беларусі і Расіі.**

Парламенцкі сход, у які ўваходзяць па 25 дэпутатаў ад кожнай краіны, — адна з агульных структур, што ўзніклі пасля стварэння Супольнасці дзвюх дзяржаў у красавіку гэтага года. Спікер беларускага парламента Сямён Шарэцкі выкарыстаў візіт у Маскву для сустрэч з кіраўніком адміністрацыі прэзідэнта Расіі Анатолем Чубайсам і новым сакратаром Савета бяспекі Расіі Іванам Рыбкіным. Абедзьве размовы доўжыліся больш за гадзіну і, паводле сцверджанняў С.Шарэцкага, пакінулі ў яго «самыя добрыя ўражанні». На сумеснай прэс-канферэнцыі са спікерам Расійскай думы Генадзем Селязнёвым Шарэцкі падкрэсліў, што ва ўнутраным канфлікце паміж заканадаўчай і выканаўчай уладамі Беларусь здольная разабрацца самастойна.

Беларуская прэзідэнцкая прапаганда вуснамі свайго нястомнага тэлерупара Зімоўскага даволі нязграбна паспрабавала сказіць сутнасць пазіцыі кіраўніка адміністрацыі Ельцына, заявіўшы, нібыта Чубайс заклікаў Шарэцкага не ваяваць з Лукашэнкам. Чубайс, безумоўна, не той чалавек, якога можна западозрыць у сімпатыях да Лукашэнкі, аднак варта адзначыць змену акцэнтаў у стаўленні Крамля да беларускага канфлікту. Пасля таго, як Лукашэнка нібыта згадзіўся не рабіць дзяржаўнага перавароту, Масква ад палітыкі актыўнага ціску на беларускага прэзідэнта перайшла на пазіцыі нейтралітэту. Крамлю не вельмі хацелася паўтарэння ў Мінску непрыемных для Ельцына аналогій з кастрычнікам 1993 года. Але Масква не жадае і губляць «самага прарасійскага» кіраўніка ў СНД — лепей падтрымліваць напружанне, не даючы магчымасці ні аднаму з варагуючых бакоў дабіцца канчатковай перамогі.

У сувязі з маскоўскай пазіцыяй яшчэ больш актуальным становіцца варыянт, які цяпер вельмі ажыўлена абмяркоўваецца ў кулуарах беларускага парламента: дэпутаты-ініцыятары здымаюць з рэферэндуму свой праект Канстытуцыі, і Вярхоўны Савет у вачах «шырокіх масаў насельніцтва» ставіць пераможную кропку ў конкурсе на званне «лепшага кампрамісніка».

А паездкі ў Маскву для 25 беларускіх дэпутатаў самых розных фракцыяў маюць, акрамя ўсяго іншага, адзін істотны плюс: нашыя парламентары, па прызнанні аднаго з іх, на свае вочы пераконваюцца ў вялікадзяржаўніцкім менталітэце расійскіх палітыкаў. Кожная гадзіна сумеснай працы пазбаўляе наіўных ілюзій «роўнай і ўзаемавыгаднай інтэграцыі».

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

## Галоўнага рэдактара не дапускаюць у рэдакцыю

З дапамогай міліцыі прэзідэнцкая адміністрацыя працягвае ўтрымліваць «Народную газету» пад сваім кантролем.



Галоўнага рэдактара Леаніда Юнчыка не дапускаюць у службовы кабінет. Учора яго ў чарговы раз спынілі міліцыянты перад уваходам на 7-ы паверх Дома друку, дзе размяшчаецца «НГ» *(гл.здымак)*. Пасля гэтага інцыдэнту тры прадстаўнікі Пракуратуры РБ нанеслі візіт М.Шыманскаму, які насуперак рашэнню Канстытуцыйнага суда працягвае ўтрымліваць рэдактарскае крэсла.

**М.Г.**

**ПРАГНОЗ**

## Расійскі пасьянс

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

Расстаноўка сіл у расійскай уладнай вярхушцы гэтай восенню змянялася настолькі імкліва, што беларускія палітыкі, традыцыйна прывязаныя да расійскага палітычнага рынку, могуць і разгубіцца: на каго ставіць? Яшчэ вясной Лукашэнка ставіў на Зюганава. Сёння ж да беларускага прэзідэнта не могуць не даходзіць звесткі пра збліжэнне лідэра расійскіх камуністаў з тандэмам «Строеў—Селязнёў», а праз іх з Чарнамырдзіным, што блытае планы галоўнага інтэгратара.

З іншага боку, цяжкасці з саюзнікамі пачаліся і ў беларускіх апазіцыянераў. Яшчэ ў верасні менавіта праз Анатоля Чубайса яны спрабавалі ўздзейнічаць (і небеспаспяхова) на расійскага прэзідэнта, каб скарэкціраваць беларускую сітуацыю ў бок дэмакратызацыі і законнасці. Але сёння ўжо ад таго самага Чубайса даводзіцца атрымліваць парады шукаць «кампраміс з Лукашэнкам», бо ён, маўляў, зрабіў крок насустрач парламенту. Дарэмна пытацца ў Анатоля Барысавіча: хіба знаходжанне ў канстытуцыйным полі — гэта міласць, а не абавязак прэзідэнта? Бо сённяшні Чубайс не можа не адрозніваецца ад Чубайса перыяду прыватызацыі ці нават абжывання ў Крамлі. Час зразумець, што гэтак жа будзе з кожным з былых саюзнікаў. Кожны сябар нашых дэмакратаў тым менш будзе да іх прыслухоўвацца, чым вышэйшую пасаду атрымае. Бо якім бы нязручным ні быў для Масквы Лукашэнка, лепшага (для Расіі) прэзідэнта, чым Аляксандр Рыгоравіч, ёй ужо ніколі не атрымаць. Як казалі амерыканцы пра дыктатара Нар'егу: «Магчыма, ён і сукін сын, але наш сукін сын».

І ўсё ж вернемся да пытання — на каго ставіць. Цяпер, калі выштурхнулі з Крамля Лебедзя, калі маскоўскі мэр Лужкоў заявіў ледзь не пра трэцюю «абарону Севастопаля» і распачаў фактычна сваю перадвыбарчую кампанію, а ў расійскіх губернях «чырвонага пояса» перамагаюць яўныя антыельцынцы, сапраўды можа скласціся ўражанне, што эпоха цара Барыса завяршаецца і пачынаецца чарговы «смутны час». Толькі давайце зададзімся пытаннем: няўжо Чарнамырдзін ды Чубайс такія прасцякі, няўжо Чарнамырдзін дзеля таго «здаў» гучнагалосага генерала, каб падняць ягоны рэйтынг напярэдадні новых прэзідэнцкіх выбараў? Няўжо Чубайс, які яшчэ ў ліпені збіраўся заняцца бізнесам, дзеля таго адклаў гэты выгадны занятак і ўмацаваўся ў Крамлі, каб праз паўгода яго выкінуў адтуль новы прэзідэнт?

*(Працяг на стар. 2)*

## Шарэцкі сустракае Зыха

**Сёння ў Брэсце павінна адбыцца рабочая сустрэча спікера беларускага парламента Сямёна Шарэцкага з маршалкам польскага Сейма Юзэфам Зыхам.**

Перамовы будуць праходзіць адзін на адзін.

Нагадаем, што ў чэрвені г.г. пан Зых прымаў свайго беларускага калегу ў польскім горадзе Нараўка. Візіт у адказ быў запланаваны на канец лета, але быў адкладзены з прычыны хваробы Ю.Зыха.

**А.Д.**

## Трагедыя кастрычніка

**Адразу сямёра салдат загінула ў мінулую суботу на палігоне пад Барысавам у выніку падзення вайсковага аўтамабіля ў вадаём.**

«Урал», гружаны дровамі, на якія ў парушэнне правілаў забраліся салдаты, ехаў уздоўж вадаёма па 144-му танкадрому. Раптам вадзіцель вырашыў аб'ехаць яму, але не справіўся з кіраваннем, і машына перакулілася прама ў ваду. Вайскоўцаў літаральна засыпала дровамі, якія яны самі гадзіну таму пагрузілі ў кузаў. Сямёра з дзевяці загінулі. Усе хлопцы — 1976-77 гадоў нараджэння. Узбуджана крымінальная справа. Прапаршчыку Абрамовічу, які быў за старшага ў машыне, «свеціць» да 10 гадоў турмы. На месцы здарэння ўжо пабываў міністр абароны Беларусі Леанід Мальцаў.

Усяго за дзевяць месяцаў гэтага года ў беларускім войску загінула 42 ваеннаслужачыя, што крыху меней у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года, калі было зарэгістравана 67 смяротных выпадкаў. Але кастрычнік 1996 г. стаў рэкордным па трагедыях. У тым жа Барысаўскім раёне днём раней адзін вайсковец загінуў ад паражэння электратокам і адзін цывільны быў разарваны снарадам на палігоне.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## СНІД прыйшоў у казарму

**Армейскае і медыцынскае начальства чамусьці замоўчвае той факт, што ў салдацкую казарму прыйшла «чума XX стагоддзя».**

Паводле нашых звестак, у беларускім войску выяўлена 16 ВІЧ-інфіцыраваных салдатаў тэрміновай службы. У Рэспубліканскім цэнтры прафілактыкі СНІДа інфармацыю пацвердзілі, але заявілі, што хворых не 16, а 10. Гэтыя хлопцы былі прызваныя на службу сёлета, большасць з іх са Светлагорска. Калі дыягназ пацвердзіўся, усіх ВІЧ-інфіцыраваных салдат датэрмінова звольнілі з войска.

Пасля гэтага выпадку міністр абароны выдаў загад, каб усіх навабранцаў перад прызывам на службу абавязкова абследавалі на СНІД.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Хто ж перакрываў рух транспарту?

**Арганізатарам акцыі «У абарону Канстытуцыі, супраць дыктатуры», што адбылася ў Мінску 19 кастрычніка, міліцыя прад'яўляе абвінавачванні ў парушэнні парадку.**

23 кастрычніка дэпутата ВС Аляксандра Бухвостава, які ўваходзіў у склад аргкамітэта па падрыхтоўцы акцыі, у ягоным службовым кабінеце наведалі два супрацоўнікі міліцыі. Яны паведамілі, што члены аргкамітэта абвінавачваюцца ва ўчыненні проціпраўных дзеянняў, якія пацягнулі за сабою парушэнне руху грамадскага транспарту. Канкрэтна інкрымінуецца правядзенне несанкцыянаванага шэсця ад плошчы Якуба Коласа да месца правядзення мітынгу — плошчы Парыжскай камуны.

На запатрабаванне прадстаўнікоў праваахоўных органаў А.Бухвостаў напісаў тлумачальную запіску, пасля чаго яго папярэдзілі, што ў бліжэйшы час справа будзе накіраваная ў суд.

Выклікае здзіўленне, што абвінавачванні ў парушэнні работы транспарту прад'яўляюцца чамусьці прадстаўнікам апазіцыйных сілаў. Між тым мінчане добра памятаюць, што падчас правядзення ў Палацы спорту «ўсебеларускага сходу» быў поўнасцю перакрыты праспект Машэрава і нават пешаходам дазвалялі прайсці толькі па спецпропусках.

*БелаПАН*

*На здымку: 19 кастрычніка па праспекту Машэрава можна было праехаць альбо прайсці толькі пры наяўнасці спецпропуска.*



# Газету приравняли к оружию

***Несколько дней пришлось провести за решеткой бывшему начальнику отдела УВД Гомельского облисполкома, 44-летнему майору милиции Николаю Кравченко***

Его история стала еще одной прекрасной иллюстрацией к своеобразной трактовке белорусскими властями таких понятий, как свобода печати и права гражданина.

В начале недели Кравченко по личным делам поехал на машине в Могилев. Поскольку его собственный автомобиль вышел из строя, он одолжил «Жигули» у Юрия Захаренко, в которых лежали два десятка экземпляров газеты «Грамадзянін». Когда Кравченко приехал в Могилев, он имел неосторожность предложить это издание, в котором были напечатаны, в частности, интервью с Захаренко, Богданкевичем, Гончаром и Пастуховым, двум местным омоновцам: «Ребята, почитайте, может, вам будет интересно». «Ребята» почитали — руки майору за спину и доставили его в УВД.

Тут же об этом было доложено новому шефу могилевской милиции Апанасевичу, который ранее возглавлял Гомельское УВД. Вероятно, он не испытывал избытка добрых чувств к бывшему подчиненному, который, когда изгоняли предыдущего министра внутренних дел, с трибуны заявил о своем принципиальном несогласии с этим, после чего вскорости был освобожден от должности с понижением. Дознаватель Могилевского УВД Галина Жебракова вынесла постановление о возбуждении уголовного дела. Этот документ имеет юридическую силу в том случае, если утверждается начальником органа дознания, в данном случае — руководителем УВД. Кравченко инкриминировалось «распространение газеты «Грамадзянін», которое квалифицировалось как нарушение статьи 201 УК (злостное хулиганство, нарушающее общественный порядок). Майор милиции оказался в КПЗ. Постановление о его задержании также утвердил Апанасевич. Проявил в этой ситуации не принципиальность, а скорее верность президенту и прокурор области Олег Баженко, который своим пассивным поведением способствовал нахождению Кравченко в камере. Хотя абсурдность выдвинутого обвинения была очевидной изначально: газета «Грамадзянін» — официально зарегистрированное издание и его распространение никак не может подпадать под Уголовный кодекс. Поэтому впоследствии материалы дела № 1460 были уничтожены.

После задержания майор Кравченко заявил о том, что у него имеется оружие — малокалиберный пистолет, на ношение которого имеется разрешение. В этой связи ему попытались вменить 213-ю статью УК — незаконное ношение огнестрельного оружия, хотя оружие было официально зарегистрировано, что можно было проверить в течение пяти минут. Когда же и это обвинение отпало, вдруг в салоне машины нашелся обычный кухонный нож. Немедленно была проведена криминалистическая экспертиза, установившая, что он является холодным оружием. Но при этом слуги закона забыли о том, что хранение ножа не образует состава преступления.

В конечном счете Николай Кравченко, отсидевший около трех суток, был освобожден за отсутствием состава преступления заместителем начальника следственного управления полковником Шпаком. Но вопросы остаются. Если уже сейчас правоохранительные органы действуют по принципу «был бы человек, а статья найдется», то что будет завтра, когда Лукашенко по его «просьбе» подчинят еще и прокуратуру. Все идет к тому, что скоро по указу президента будут сажать в тюрьмы и лагеря.

И еще одно. Правовой беспредел творится людьми, которые получают вполне конкретное поощрение за свои «труды». Так, некоторые высокопоставленные чины МВД (в том числе имевшие непосредственное отношение к этой истории) имеют квартиры сразу в нескольких городах Беларуси. Принцип такой: поработал в одном областном центре — получил квартиру, перевелся на другое место службы — снова обзавелся жильем, потом продал предыдущее, получил следующее назначение и так далее. Неплохая форма оплаты за творимый произвол, особенно с учетом нынешних цен на недвижимость.

**Александр КОРЖАКОВ**

# Расійскі пасьянс

*(Пачатак на стар. 1)*

Аб тым, што Ельцын хворы, крамлёўская вярхушка ведала даўно. Таму і не пагадзілася зімой на перанос выбараў, разумеючы, што праз некалькі месяцаў ужо не будзе вакол каго аб'ядноўвацца. Але хутчэй за ўсё толькі летам пасля першага тура выбараў стала вядома дакладна, што Барыс Мікалаевіч хворы безнадзейна. Вось калі бліжэйшае атачэнне Ельцына вырашыла тэрмінова ўзяцца за ўмацаванне ўлады. Тады і нарадзіўся план канстытуцыйнай рэформы, якая ў посткамуністычнай Расіі будзе ўжо трэцяй па ліку (калі будзе).

Яе аўтары зыходзяць з відавочнага прагнозу, што Чарнамырдзін выбары не выйграе, бо занадта доўга быў ён у цяні Барыса Мікалаевіча, занадта «правільны» ён чалавек, да таго ж не харызматычны лідэр, каб прывабіць расійскі электарат. Колькі не «раскручвай» Віктара Сцяпанавіча на тэлебачанні, але калі альтэрнатывай яму будзе генерал Лебедзь, то атрымаецца тое ж, што і ў Беларусі ў 1994 годзе: прэм'ера перамог дырэктар саўгаса. Але іншага кандыдата, акрамя Чарнамырдзіна, у ельцынскай каманды няма. Чубайс, як у нас кажуць, «непраханжэ». Мог бы прайсці чалавек другой каманды (зусім і не варожай), Зюганаў, але ельцынцы своечасова дапамаглі «раскруціцца» Лебедзю і Зюганава нейтралізавалі. Ён гэта разумее і зла на канкурэнтаў не трымае. Ва ўсякім разе — цяпер. Трэба лічыцца з рэальнасцю. А яна такая, што, калі не змяніць правілы гульні, не змяніць саму сістэму ўлады, у Лебедзя шлях да прэзідэнтства адкрыты.

Як сцвярджаюць дасведчаныя людзі, менавіта зменамі правілаў заняліся сённяшнія гаспадары Крамля. Сутнасць зменаў — ператварыць моцнага прэзідэнта ў слабога, аддаўшы значную частку ягоных паўнамоцтваў прэм'еру. У тым ліку правесці ў Канстытуцыю такія карэктывы, каб прэзідэнт выбіраўся не ўсенародна, а толькі парламентам. Першым такім прэзідэнтам пасля развітання з Барыса Мікалаевіча стане хутчэй за ўсё Генадзь Зюганаў — галасоў камуністаў у абедзвюх палатах расійскага парламента для гэтага хопіць. У прэзідэнта Зюганава будуць прадстаўнічыя функцыі і кантроль над заканадаўчым працэсам, а ўсю гаспадарча-выканаўчую ўладу возьме ў свае рукі Віктар Чарнамырдзін, пры якім першым (галоўным) намеснікам стане Анатоль Чубайс. Тандэм «Строеў-Селязнёў» будзе для іх балансам, стрымліваючым фактарам, пры гэтым «левым» аддадуць яшчэ некалькі міністэрскіх партфеляў (міністр-камуніст — толькі першая ластаўка).

Такім чынам, кожны атрымае па значным, але не вырашальным кавалку ўлады (прыкладна гэтак жа зараз распарадкаваная эканоміка Расіі, дзе «новыя рускія» дамінуюць у банкаўскай і энэргетычнай галінах, а «чырвоныя» — у вайскова-прамысловым комплексе). Лічыцца, што такі падзел выратуе краіну ад прышэсця Лебедзя, Лужкова, Жырыноўскага ці нават Лукашэнкі. У гэтым варыянце, канешне, ёсць слабыя бакі, незразумелыя рэчы. Напрыклад, чаму пагадзіўся на пост віцэ-прэм'ера Чубайс? Апошнія ягоныя крокі паказваюць, што ён можа і выйсці за рамкі прапанаванага. Але тады рушыцца ўся сістэма.

Ці падтрымлівае гэтую «рэформу» (калі яна сапраўды плануецца) Барыс Мікалаевіч? Яшчэ два тыдні таму, акрамя раптоўнага адхілення ад пасады Лебедзя, іншых сімптомаў, якія б паказвалі ягоную згоду, не было. Аднак апошнія падзеі ў Маскве даюць падставы меркаваць, што ён не проста згодзен, але і актыўна працуе на гэты варыянт. Мяркуйце самі: спачатку Ельцын па радыё рэзка абрывае ўсіх жадаючых зноў пачаць прэзідэнцкія выбары — маўляў, хопіць нам выбараў, трэба працаваць, прэзідэнт у краіне ёсць. Але калі ён ёсць, то навошта спатрэбілася праз два дні ствараць «кансультатыўны савет» з Чарнамырдзіна, Чубайса, Строева, Селязнёва? Далей — болей. КС яшчэ не пачаў працаваць, а ягоныя члены ўжо заяўляюць пра неабходнасць далучыць да іх лідэраў найбольш магутных парламенцкіх фракцыяў (у першую чаргу Зюганава). Вось і акрэслена кола тых пяці палітыкаў, якім і застанецца ў спадчыну прэзідэнцкая ўлада.

Нарэшце, апошняя навіна з Дзярждумы. Пасля адстаўкі Лебедзя там хутка прынялі пастанову «Аб забеспячэнні канстытуцыйнага парадку і бяспекі Расійскай дзяржавы». Дакумент рыхтаваўся пад кіраўніцтвам і па ініцыятыве старшыні камітэта па бяспецы камуніста Ілюхіна. Галоўная думка гэтага дакумента — уся ўлада ўраду. Вядома, што забяспечыць гэтую ўладу без зменаў у Канстытуцыі немагчыма. І тут можна было б узгадаць, што дзеючую расійскую Канстытуцыю народ прымаў на рэферэндуме. Але хто ж яе адмяняе? Змены — яны і ёсць змены. Іх патрабуе час, прымаць іх трэба тэрмінова. Не выключана, што гэты «тэрмін» — астатні час жыцця Барыса Мікалаевіча. Толькі б ён працягнуў яшчэ некалькі месяцаў, хаця б да новага года, і тады, як сцвярджае рэклама, «усё ў нас атрымаецца».

# Смаргонь – на мяжы сацыяльнага выбуху

**На мінулым тыдні, 24 кастрычніка, Міхаіл Чыгір наведаў г.Смаргонь.**

Ён прыехаў, каб наведаць два буйнейшыя заводы горада — аптычнага станкабудавання і аўтаагрэгатны, эканамічнае становішча якіх вельмі цяжкае. На першым з ранейшых 5 тысяч рабочых засталося ў тры разы менш. А на аўтаагрэгатным, дзе колькасць работнікаў таксама моцна зменшылася, заробкі не перавышаюць 200—300 тысяч рублёў у месяц.

Праблема аўтаагрэгатнага ў тым, што напрыканцы існавання СССР ён будаваўся як філія Мінскага трактарнага завода, але потым папросту стаў непатрэбны. Завод аптычнага станкабудавання амаль цалкам працаваў на савецкую армію, таму пераадолець крызіс пры бяздарнай эканамічнай палітыцы ўрада яму яшчэ цяжэй. М.Чыгіру не спадабалася, што замест таго, каб даваць грошы ў бюджэт, смаргонскія заводы выпрошваюць крэдыты на выплату заробкаў. Прэм'ер-міністр паабяцаў прыслаць камісію, якая павінна падрабязна разабрацца ва ўсіх смаргонскіх праблемах.

Працоўная сітуацыя ў горадзе ўвесь час пагаршаецца. Сёння афіцыйная лічба беспрацоўя перавышае 9% — гэта самы горшы ў вобласці паказчык. А схаванае беспрацоўе тымчасам дасягае прыкладна 30%. Лічыцца, што калі дзесятая частка працаздольнага насельніцтва не мае работы, дык сітуацыя пагражае сацыяльным выбухам. У Смаргоні да гэтага засталося няшмат.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Ахвяра СНІДу

**У Магілёўскай абласной бальніцы днямі памёр хворы, у якога быў устаноўлены дыягназ СНІД.**

Цяпер у бальніцы знаходзіцца яшчэ адна ахвяра СНІДу — дзяўчына-наркаманка з Асіповічаў. Пра гэта паведаміў галоўны ўрач Магілёўскага абласнога цэнтра прафілактыкі СНІДу А.Бусел. Усяго ў 1996 г. зарэгістравана 10 ВІЧ-інфіцыраваных, яшчэ некалькі чалавек пад падазрэннем.

Дарэчы, пашырэнне «чумы XX стагоддзя» на Магілёўшчыне недарэмна называюць «светлагорскім рэхам»: устаноўлена, што магілёўскія наркаманы набываюць наркотыкі перш за ўсё ў Светлагорску.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**



# Долар пераадолеў 20-тысячную мяжу

**У мінулую пятніцу, 25 кастрычніка, кошт долара на міжбанкаўскім валютным рынку склаў 22.200—22.300 беларускіх рублёў.**

Скачок выразны: яшчэ на пачатку тыдня курс не перавышаў 19.400—19.500 рублёў за долар. На рынку наяўнай валюты (перш за ўсё на «чорным») курсы долара таксама перавысілі дваццацітысячную мяжу, але ўсё ж не дайшлі да ўзроўню курсу рынкаў безнаяўнай валюты.

Такі імклівы рост курсу можа быць патлумачаны перш за ўсё выдачай банкаўскіх крэдытаў (як за кошт саміх банкаў, так і спецыяльнай крэдытнай лініі Нацыянальнага банка) на выплату запазычанасці па зарплаце. З агульнай сумы запазычанасці, якая складае прыкладна 1 трлн. рублёў, ужо выплачана болей за 600 млрд. Моцна падагравае попыт на валюту і палітычная нестабільнасць у краіне.

На гэтым тыдні, магчыма, рост зменіцца падзеннем курсу — гэта амаль заўжды здараецца пасля рэзкага павышэння каціровак. Але, здаецца, курс долара ўжо стабільна ўсталяваўся за дваццацітысячнай адзнакай, што патрабуе ад Нацыянальнага банка ўнясення новых зменаў у нарматыўныя акты, якія абмяжоўваюць максімальныя каціроўкі наяўнага долара рысай 20.150 BRB. У банкаўскіх колах ходзяць чуткі, што павышальны каэфіцыент будзе ізноў павялічаны — да 1,5 — з мэтай захавання канкурэнтаздольнасці банкаў перад «чорным» рынкам. Калі гэта будзе так, максімальна магчымы банкаўскі курс наяўнага долара складзе 23.250 рублёў. Калі не — банкам зноў давядзецца выкарыстоўваць розныя абходныя схемы, накшталт пакупкі ці продажу долараў праз іншыя цвёрдыя валюты, на якія няма абмежавання каціровак.

**Алесь САДОЎСКІ**

